№ 6 чэрвень 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Але з мовай – і мы будзем жыць.**

*Наталля Арсеннева*

## *У НУМАРЫ:*










# НАШЫ НАВІНЫ

Нядаўна ў выдавецтве “Кнігазбор” выдадзены дзве кнігі пастаўскіх краязнаўцаў: “Назвы нашых мясцін” і “1812. Вайна на Пастаўшчыне”. Аўтарам першай з іх з’яўляецца пісьменнік і краязнаўца, настаўнік







Пастаўскай гімназіі Ігар Пракаповіч. Кніга ўяўляе сабой значна пашыранае і дапоўненае выданне “Назваў нашых вёсак” і складаецца з чатырох раздзелаў, у якіх прапануюцца варыянты паходжання і сэнсу назваў рэк, азёр і населеных пунктаў Пастаўскага раёна (каля 700 назваў), а таксама назваў вуліц г. Паставы. Падаецца іх класіфікацыя, размеркаванне па групах і тэрыторыі, прапануюцца слоўнікі: гідранімічны, айканімічны, урбанімічны. Цікавым падаецца раздзел “Фальклорнае тлумачэнне назваў”.

Другая кніга, “1812. Вайна на Пастаўшчыне”, напісана тым жа Ігарам Пракаповічам у суаўтарстве з супрацоўнікам пастаўскага краязнаўчага музея Вадзімам Шышко. У ёй разглядаюцца падзеі, звязаныя з вайной Напалеона супраць Расіі, якія адбываліся на тэрыторыі сучаснага Пастаўскага раёна і ў яго ваколіцах. У кнізе падаюцца матэрыялы пра размяшчэнне ў гэтых мясцінах напярэдадні вайны рускіх войск (паводле ўспамінаў Паўла Пушчына), пра рух рускіх і французскіх вайсковых аддзелаў, пра адносіны розных слаёў насельніцтва да падзеяў таго часу. Асаблівую цікавасць выклікае схема размяшчэння аб’ектаў (французскіх магіл, курганоў, месцаў баёў), якія наўпрост або ўскосна звязаны з вайной 1812 года, а таксама верагоднасць надання Напалеонам назвы Парыж адной з вёсак раёна. Вокладку кнігі ўпрыгожвае помнік вайне 1812 года, які знаходзіцца на Пастаўшчыне ў вёсцы Асінагарадок.

Думаецца, новыя кнігі будуць карысныя ўсім, хто неабыякавы да мінуўшчыны роднага краю. На жаль, наклад выданняў невялікі, і набыць іх можна толькі ў мінскіх кнігарнях “Акадэмкніга” і “Кніжны салон”, а таксама ў кніжным аддзеле “Культтавараў” і магазіне “Шкаляр” у Паставах.

*Наталля Пракаповіч*

**Шыпшына** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*

**Пётр Курыловіч**

## НАРОДНАЙ МУЗЫЦЫ ДАЛЕЙ ІСКРЫЦЦА, СЛАВЯЧЫ ЦЫМБАЛЬНУЮ СТАЛІЦУ

Сёлета ў дваццаты раз, у тым ліку ў шаснаццаты ў рангу міжнароднага, у Паставах прайшоў фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”. На гасціннай, шчодрай і багатай на таленты пастаўскай зямлі прадэманстравалі сваё майстэрства захавальнікі народных музычных традыцый і фальклорнай спадчыны з усіх абласцей і сталіцы Беларусі,



Расіі, Украіны, Венесуэлы, Славакіі, Польшчы, Літвы і Латвіі. Аматарскія інструментальныя калектывы, ансамблі народнай музыкі, індывідуальныя выканаўцы з нашай і замежных краін парадавалі журы і пастаўчан сваім непаўторным каларытам, нацыянальнай самабытнасцю, падарылі ім сваю любоў, часцінку душы. На жаль, не пашанцавала з надвор’ем: якраз у час адкрыцця і закрыцця фестывалю прайшлі моцныя дажджы, але яны не змаглі азмрочыць святочнага настрою, радасць сустрэчы з сапраўднай народнай творчасцю.

Фестываль у Паставах за два дзесяцігоддзі набыў сваё непаўторнае аблічча, з’яўляецца падзеяй для ўсіх, хто захапляецца народным мастацтвам, захоўвае і прымнажае музычныя традыцыі. Пра вытокі і сённяшні дзень свята народнай музыкі на яго адкрыцці гаварылі старшыня райвыканкама Віктар Гутараў, намеснік міністра культуры Васілій Чэрнік і намеснік старшыні аблвыканкама Уладзімір Цярэнцьеў. Яны зачыталі віншавальныя тэлеграмы, адрасаваныя ўдзельнікам, гасцям і гаспадарам фестывалю міністра культуры Рэспублікі Беларусь Міхаіла Святлова і старшыні абласнога выканаўчага камітэта Аляксандра Косінца.

Адкрыць творчую частку ўрачыстасці выпаў гонар Нацыянальнаму акадэмічнаму народнаму аркестру Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча і яго мастацкаму кіраўніку, народнаму артысту краіны, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, нязменнаму старшыні журы фестывалю Міхаілу Казінцу. На гэты раз прафесійны калектыў паўстаў у абноўленым складзе. У ім саліравалі на цымбалах былыя і цяперашнія выхаванкі Пастаўскай школы мастацтваў імя Антонія Тызенгаўза, лаўрэаты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Лізавета Глазава, Аляксандра Палкіна, Аляксандра Барысюк і Марыя Міхайлава. Затым да знакамітых прафесіяналаў далучыўся і заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь фальклорны ансамбль “Паазер’е” выкладчыкаў мастацкай школы. Гэта было радаснае і хвалюючае выступленне, якое пацвердзіла, што толькі на гасціннай, багатай на таленты пастаўскай зямлі могуць адбывацца такія музычныя цуды.

Здзівілі і парадавалі не толькі гаспадары. Журы, жыхары горада і сельскіх населеных пунктаў (а на канцэртных пляцоўках многіх з іх выступалі канкурсанты) захоплена сустрэлі выступленні народных ансамбляў “Талака” Полацкага ГДК, “Каданс” і “Кірмаш” (г. Заслаўе), “Ігуменскія крыніцы” (г. Чэрвень), “Быліна” (г. Гомель), “Алі Прымера” Лацінаамерыканскага культурнага цэнтра імя Сімона Балівара ў г. Мінску. Яны сталі

на сайтах katunikat.org і westki.info **Шыпшына**



"Удзельнік фестывалю" ўдастоена вучаніца Навасёлкаўскай дзіцячай школы мастацтваў Анастасія Зінчанка (баян).

Пастаўскі фестываль адметны тым, што ў розных святочных мерапрыемствах разам з прафесійнымі, вядомымі калектывамі прымаюць удзел аматарскія. Сёлета пастаўчанам пашанцавала далучыцца да высокага танцавальнага, музычнага і песеннага мастацтва Бела-

лаўрэатамі першай ступені. Усяго званні лаўрэатаў і дыпламантаў атрымалі каля 50 індывідуальных выканаўцаў, інструментальных і народных ансамбляў з Мінска, Бабруйска, Жабінкі, Слоніма, Вілейкі, Чэрвеня, Ржэва, Курска, Пушкіна, Кіева, Семятычаў, Швянчоніса, Купішкіс, Рэзэкнэ і іншых гарадоў. Уладальнікам Гран-пры фестывалю стаў гарманіст, выкладчык Вілейскай гімназіі №2 Барыс Харэвіч. Яму таксама прапанаваны кантракт на ўдзел у канцэрце Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча "Музыка без межаў".

Парадавалі і пастаўчане. Дыпломам фестывалю "Лаўрэат II ступені" ўзнагароджаны ансамбль народнай музыкі і песні "Заранка" выкладчыкаў Варапаеўскай дзіцячай школы мастацтваў (кіраўнік — Валянцін Жагула).

У намінацыі "Дзіцячая творчасць" лаўрэатамі сталі навучэнцы Пастаўскай школы мастацтваў Яўгеній Вайцяхоўскі і Іван Жаўнярук (дуэт баянаў, 2-ое месца), Аляксандра Палкіна (цымбалы, 2-ое месца). Дыплома



**Шыпшына** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*

рускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля “Харошкі”, Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь, духавога аркестра Смаргонскай пагранічнай групы, ансамбля барабаншчыц Глыбоцкага РДК, ансамбля бальнага танца “Фартуна” г. Полацка і іншых калектываў. Адкрыццё і закрыццё фестывалю, розныя мерапрыемствы з іх удзелам надалі святу яшчэ большую самабытнасць, выклікалі ў якія ёсць у кожным рэгіёне краіны. Фестываль дае магчымасць паказаць не толькі сябе, сваю музычную культуру, але і з радасцю азнаёміцца з музычнай спадчынай розных краін свету. Стабільнасць і нязменнасць галоўных задач, наяўнасць сваіх традыцый — таксама адметная рыса пастаўскага фестывалю. Гэтым ён цікавы, з кожным годам прываблівае ўсё больш удзельнікаў. Непараўнальна вырас творчы




гледачоў шмат уражанняў.

У рамках фестывалю прайшлі музычна-тэатралізаваныя прадстаўленні “Пастаўскі баль”,“Музыка беларускіх палацаў і сядзіб”, “Мой любы горад”, раённы агляд-конкурс сельскіх панадворкаў, канцэрт класічнай музыкі ў пастаўскім касцёле і іншыя мерапрыемствы.

— Фестывалю ў Паставах належыць вялікая роля ў актыўным адраджэнні і папулярызацыі народных музычных традыцый, — сказаў старшыня аргкамітэта, аўтар і кіраўнік праекта Тадэвуш Стружэцкі. — За 20 гадоў праз яго прайшлі практычна ўсе лепшыя музычныя калектывы Беларусі, ўзровень калектываў, што адзначаюць не толькі журы, але і ўсебакова падрыхтаваныя пастаўскія гледачы. Фестываль паўплываў на сам горад, яго жыхароў, бытавую культуру, развіў грамадскую ініцыятыву.

Усё гэта адбывалася пры самым непасрэдным удзеле самога Тадэвуша Іванавіча Стружэцкага. Таму кіраўнік раённай вертыкалі Віктар Гутараў з вялікім задавальненнем уручыў яму Падзяку старшыні райвыканкама. А ўзнагародай для ўсіх удзельнікаў фестывалю сталі шчырыя, заслужаныя апладысменты гледачоў і запрашэнне зноў прыязджаць на свята народнага музычнага мастацтва.

на сайтах kamunikat.org і westki.info **Шыпшына**

**Воля Лісіцкая**

## МЕЛОДЫЯ ПАЛІТРЫ

У рамках міжнароднага фестывалю народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”, які праходзіў у Паставах у першай палове чэрвеня, у Доме рамёстваў адбылася творчая сустрэча, якая сабрала прыхільнікаў фатаграфіі, мастацтва і літаратуры.

Дырэктар Дома рамёстваў Таццяна Петух адкрыла фотавыставу Сяргея Плыткевіча, знакамітага фотамастака, які з’яўляецца галоўным рэдактарам часопіса “Дзікая прырода”, дырэктарам выдавецтва “Рыфтур”, старшынёй грамадскага аб’яднання “Фотамастацтва”, аўтарам непаўторных альбомаў пра Беларусь. “Паралелі” - такую назву мае фотапраект Плыткевіча. Ён уяўляе сабой фатаграфічныя пары, якія даюць магчымасць параўнаць жыццё па абодва бакі мяжы: у беларускім горадзе Паставы і літоўскім горадзе Рокішкіс. На жаль, сам аўтар на імпрэзе не прысутнічаў: у гэты час Сяргей Плыткевіч аглядаў цудоўныя мясціны Пастаўскага краю з вышыні птушынага палёту. Напэўна , у хуткім часе мы пабачым новыя чароўныя здымкі таленавітага фотамайстра.

У суседняй галерэі вабілі вока карціны беларускіх мастакоў з Мінска, Віцебска, Жодзіна, Навагрудка і іншых гарадоў, якія ў кастрычніку мінулага года ўдзельнічалі ў пленэры, што праводзіўся ў Пастаўскім раёне. Ён быў прысвечаны 180-годдзю Альфрэда Ромэра - знакамітага жывапісца, даследчыка гісторыі і культуры, жыццё якога было цесна звязана з нашым краем. Упершыню гэтыя карціны выстаўляліся ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў у красавіку бягучага года.

Выстава цудоўных карцін будзе радаваць пастаўчан і гасцей горада яшчэ доўга: кожны з мастакоў падарыў нашаму гораду па адной карціне (усяго — 15). Гэтыя палотны стануць асновай для стварэння ў пастаўскім Палацы Тызенгаўзаў карціннай галерэі. Дарчыя дакументы на пастаяннае захаванне работ у Паставах падпісалі ініцыятар і куратар праекта, прафесар кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладного мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Рынкевіч і дырэктар Пастаўскага раённага краязнаўчага музея Раіса Курачэнка.

Удзельнікі і госці мерапрыемства мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі маладых аўтараў нашага краю - карцінамі вучняў Пастаўскай дзіцячай мастацкай школы імя А.Ромера, фотаздымкамі ўдзельнікаў Пастаўскага фотаклуба «Светасіла». Заключнай, найбольш працяглай і “гарачай” часткай мерапрыемства стала літаратурна-музычная імпрэза “Мелодыя палітры”, ганаровымі гасцямі якой сталі вядомыя майстры беларускага слова — паэт, публіцыст, галоўны дырэктар замежнага вяшчання “Беларускае радыё” Навум Гальпяровіч і пісьменнік, краязнаўца, перакладчык, намеснік старшыні рэспубліканскага Савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч.



*Т. Петух адкрывае выставу фотамастака С. Плыткевіча*

**Шыпшына** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*




*Уладзімір Рынкевіч*

Сцэнарыст і вядучая літаратурнай імпрэзы, бібліятэкар Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі імя У. Дубоўкі, актыўны член Пастаўскай арганізацыі грамадскага аб’яднання Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Людміла Сяменас задала шмат пытанняў гасцям пра пераасэнсаванне гісторыі, неабходнасць падтрымкі беларускай мовы. А першым было пытанне пра стан сучаснай беларускай паэзіі і як паэзія можа спрыяць духоўнаму выхаванню грамадства, асабліва моладзі.

- Літаратура перажывае няпростыя часы, — адзначыў Навум Якаўлевіч Гальпяровіч. — На гэта ёсць шмат прычын. Але самая галоўная, думаецца, у тым, што многія аўтары палічылі, што літаратуру ствараць надзвычай лёгка. Так, выдаць кнігу сёння не праблема: былі б грошы — і ты “пісьменнік”. Вось і атрымліваецца, што паліцы бібліятэк усё больш запаўняюцца “самвыдатам”, які не заўсёды папулярны сярод чытача. Навум Гальпяровіч падкрэсліў, што родная літаратура павінна стварацца на роднай мове. Прыгажосць і вобразнасць беларускай мовы ён паспяхова прадэманстраваў, прачытаўшы ўласныя вершы.

Анатоль Бутэвіч выказаў думку, што беларусы-нацыя донараў, якая падарыла свету многа таленавітых людзей. Ён адзначыў, што неабходна з дасведчанасцю зазірнуць у гісторыю і павярнуць яе на сваю карысць, бо ў гісторыі шмат цікавага і неспазнанага, безліч новых сюжэтаў для кніг і фільмаў. І пра гэта Анатоль Іванавіч ведае не па чутках: ім напісаны кнігі гістарычнай тэматыкі “Каралева не здраджвала каралю” і “Таямніцы Нясвіжскага замка”, пра якія аўтар расказаў з вялікім натхненнем. Навум Гальпяровіч расказаў пра новую выдавецкую серыю кніг пра гарады Беларусі: Мінск, Полацк, Гродна, Віцебск.

Але не толькі госці знаёмілі прысутных з кнігамі. З цікавай інфармацыяй пра новыя ўласныя выданні выступілі пастаўскія краязнаўцы Ігар Пракаповіч і Вадзім Шышко, якія таксама з’яўляюцца актыўнымі сябрамі Пастаўскай арганізацыі ТБМ.

Удзел у абмеркаванні стану беларускай літаратуры прынялі і многія прысутныя. Было выказанна шкадаванне, што ў Паставах на сённяшні дзень няма кнігарні. Як



*Людміла Сяменас, Навум Гальпяровіч, Анатоль Бутэвіч*

*На сайтах kamunikat.org і westki.info* **Шыпшына**



— Трэба ўсімі сіламі садзейнічаць таму, каб беларуская кніга дайшла да беларускага чытача, — зазначыў ён напрыканцы сустрэчы. — Калі мы будзем ведаць сваю мову, сваю гісторыю, тады і будзем адчуваць сябе сапраўднымі гаспадарамі на роднай зямлі. Любіце наш край, ведайце яго, ганарыцеся ім — і жыць стане цікавей.

справядліва заўважыў Анатоль Бутэвіч, нават у камп'ютарны час нішто не замяніць сапраўдную жывую кнігу.

У час імпрэзы гучалі вершы ў выкананні мясцовых паэтаў Ігара Пракаповіча, Наталлі Карнілавай, а таксама музычныя творы: песня на словы лынтупскага паэта Алеся Гарбуля і музыку мінскага кампазітара Алеся Шылы ў выкананні Рэнаты Рудкоўскай, песні на вершы Ігара Пракаповіча ў выкананні Людмілы Логінавай, якая з'яўляецца аўтарам музыкі, музычныя кампазіцыі ў выкананні скрыпачак Юліяны Янцэвіч і Ірыны Дубовік, некаторыя з якіх створаны Юліянай. А завяршыла імпрэзу выступленне ансамбля "25+-" з песняй "Пастаўскія вечары"на словы Наталлі Карнілавай (музыка Мікалая Карпенкі), як вынік сустрэчы, запрашэнне яшчэ раз наведаць Паставы і прызнанне ў любові да роднага краю і роднай мовы.



*Ірына Дубовік і Юліяна Янцэвіч*

**Шыпшына** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*

**Шыпшына**

*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52.
Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*